


№ 1 (114)
Студзень 2006 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года





## У нумары:



## На тым тыдні...

● 23 снежня ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь а 16-й гадзіне прайшло адкрыццё выставы «Заснавальнік беларускай сцэнаграфіі». Выстава арганізавана з нагоды 115-годдзя з дня нараджэння народнага мастака Беларусі Аскара Марыкса.

● У рамках года культуры Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь 22 снежня ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі прайшло адкрыццё выставы «На краю Ойкумены. Традыцыйная культура народа комі». Ва ўрачыстым мерапрыемстве прынялі ўдзел шматлікія дзеячы культуры і мастацтва. Сярод пачэсных гасцей – кіраўнік Федэральнага агенцтва па культуры і кінематаграфіі Расійскай Федэрацыі Міхаіл Яфімавіч Швыдкой, дырэктар Нацыянальнага музея Рэспублікі Комі Ірына Мікалаеўна Котылева. Міхаіл Швыдкой зазначыў, што гэтая выстава унікальная. Многія экспанаты не часта можна пабачыць нават у Маскве і Санкт-Пецярбургу. Таму ўсе, каго цікавіць традыцыйная культура народаў нашай планеты, прыходзьце. Тут вы пабачыце не толькі пімы – мужчынскі абутак з меху аленя, тучы – сумкі з меху і замшы, але і шмат іншых цікавых экспанатаў.

● У Цэнтральнай раённай бібліятэцы старажытнага Навагрудка, як паведамляе наш пазаштатны аўтар Яўген Лапцеў, адбылася прэзентацыя кніг Здзіслава Сіцькі «Чалавек, які збіраў камяні: Ігнат Дамейка» і Алеся Жлуткі «Міндаў, кароль Літовіі, у дакументах і сведчаннях». Ініцыятарам і арганізатарам гэтага мерапрыемства была гісторык-краязнаўца, дырэктар Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея Тамара Вяршыцкая.

# Ці годна мы святкуем?!.

Для мільёнаў беларусаў свята Нараджэння Хрыстова не толькі самае галоўнае, але і самае любімае. Здаўна ў гэты час вёскі і гарады жылі асаблівым жыццём, напоўненым шматлікімі звычаямі і абрадамі. Адным з іх з'яўляецца калядаванне. Ледзь толькі сцямнее і на небе загарыцца першая зорка, як на вуліцах з'яўляліся калядоўшчыкі, з баянам, бубнам і, канечне ж, з «зоркай». Увесь вечар людзі віталі адзін аднаго, услаўлялі Нараджэнне Хрыстова.

Так было раней. Але з цягам часу звычаі пачалі забывацца. І толькі ў некаторых рэгіёнах Беларусі, напрыклад, на Палессі, і да сённяшняга часу людзі «ідуць у коледу». Тут і цяпер у святы вечар гучыць:

*Добры вэчор,*
*пане-господару!*
*Со святым Рождлжэством*
*вас поздороўляем!*
*Дай Божэ за год дождаць!..*
*А нам коледу співаць?!.*

З такімі словамі ў некаторых вёсках Століншчыны калядоўшчыкі звяртаюцца да гаспадароў з просьбай дазволіць калядаванне. У адказ амаль заўсёды гучыць: «Співайтэ, співайтэ!» Пачынае граць баян, звінець бубен, круціцца зорка, усярэдзіне якой каля абразка гарыць свечка. Па ўсёй вёсцы лунае:

*Рождэство Христовэ,*
*Ангел прылецеў.*
*Ён лецеў по небу,*
*Людзям песні пеў:*
*«Ўсе людзі, лікуйтэ,*
*Ўвесь дзень*
*торжэствуйтэ,*
*Ёсць*
*Хрыстовэ Рожджэство!»*
*Ён лецеў по небу,*
*Людзям шчасце нёс,*
*Шчо ў пэшчэрэ цёмнай*
*Родзіўса Хрыстос...*
*Пастушкі з ягнятком*
*Раньшэй ўсіх прыйшлі*
*Ї там Божу Мацер*
*З Господом знайшлі.*
*На калені палі,*
*Хрысту дары далі...*

І толькі там, дзе нядаўна памёр чалавек, калядоўшчыкам не адчыняць. Але ў вёсках людзі ведаюць, у якой хаце гора, таму і не ідуць туды.

Паводле старога звычаю, калядоўшчыкі спачатку віталі сваіх родных, якія заўсёды шчыра і багата адорвалі. Раней давалі ежу са святочнага стала і толькі зрэдку грошы. Цяпер жа наадварот.

Для некаторых калядаванне ператвараецца ў вельмі добрыя заробкі. І калі не дасі грошы кампаніі такіх гора-калядоўшчыкаў, то могуць не тое што пакрыўдзіцца, але і абразіць, кінуць снегам у шыбы ці зняць веснічкі. А яшчэ з кожным годам усё радзей у святы вечар гучыць баян, ззяюць у дварах «зоркі». Некаторых сённяшніх «калядоўшчыкаў» можна прыняць за звычайную кампанію людзей на падпітку.

Вось і ўзнікае пытанне: ці годна мы святкуем Нараджэнне Хрыстова?!.

*Ігар ГРЭЧКА*

## Прэзентацыя электроннай спадчыны




***Нядаўна ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН Беларусі прайшла прэзентацыя кампакт-дыска «Нясвіж – культурны цэнтр Еўропы і нацыянальны помнік», створанага ў адпаведнасці з рэзалюцыяй 32-й Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА ў рамках Праграмы ўдзелу ЮНЕСКА на 2004–2005 гг.***

На ўрачыстым мерапрыемстве выступілі тыя, хто меў непасрэднае дачыненне да яго выдання – дырэктар бібліятэкі Наталля Бярозка, старшыня Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны, дырэктар Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Ала Голубева і іншыя. Яны расказалі аб карпатлівай і вельмі пачэснай справе стварэння дыска, аб яго змесце.

Шматлікія здымкі, цікавы тэкст, змешчаныя на дыску, прадстаўляюць вельмі багатую матэрыяльную і культурную спадчыну знакамітага горада, які адыгрываў вялікую ролю ў культурным жыцці Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў XVI – пачатку XX стст.





*Наша віншаванне*

## Акадэмік Касцюк: тройчы чалавек года!

Нядаўна ў адпаведнасці з рашэннем Бюро прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук вядомы беларускі вучоны-гісторык, акадэмік НАН Беларусі, акадэмік Цэнтральнай Еўрапейскай Акадэміі навукі і мастацтва, Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, загадчык аддзела Інстытута гісторыі НАН Беларусі Міхаіл Касцюк прадставіў беларускую гістарычную навуку на самым высокім сусветным форуме гісторыкаў – XX кангрэсе Міжнароднага камітэта гістарычных навук, які праходзіў у Аўстраліі.

Напрыканцы года Амерыканскі біяграфічны інстытут прысвоіў Міхаілу Паўлавічу Касцюку высокае і прэстыжнае званне «Чалавек года-2005».

Міжнародны даследчы аддзел Амерыканскага біяграфічнага інстытута прыняў гэта рашэнне ў знак прызнання вялікага ўкладу, які ўнёс беларускі даследчык айчыннай гісторыі ў развіццё грамадства. У прыняцці рашэння супрацоўнікі інстытута абапіраюцца на дапамогу вялікай групы дарадцаў – уплывовых экспертаў з 75 краін свету.

Зазначым: ганаровае званне «Чалавек года» акадэмік М. Касцюк атрымлівае ўжо трэці раз. Міхаіл Паўлавіч быў намінаваны ім у 1999 і 2002 гадах.

Акадэмік Касцюк па рашэнні навуковага савета Амерыканскага біяграфічнага інстытута ўключаны таксама ў біяграфічны «Міжнародны даведнік экспертаў і экспертызы».

*(Паводле газеты «Звязда» ад 30 снежня 2005 г.)*

**P.S.** ***«Краязнаўчая газета», грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры» віншуюць Міхаіла Паўлавіча Касцюка – сябра Рады Беларускага фонду культуры з высокаю адзнакаю і жадаюць яму ў Новым 2006 годзе добрага здароўя, творчых поспехаў, новых навуковых дасягненняў.***

*Беларускі Новы год – у Францыі з французамі*



*Фота з альбома Міколы КОТАВА*

***Імя народнага пісьменніка Беларусі Васіля Уладзіміравіча Быкава належыць да самых папулярных пісьменнікаў не толькі ў беларускай літаратуры, але і ў маштабах сусвету. Наклад яго кніг даўно перавысіў мільёны экземпляраў, іх з вялікай ахвотай і задавальненнем чытаюць людзі розных узростаў – ветэраны вайны і моладзь.***

## У госці да Васіля Быкава

«Лёс зберог нам Васіля Быкава, каб ён жыў і пісаў ад імя цэлага пакалення, ад імя тых, хто юнакамі спазналі вайну і ўзмужнелі духам са зброяй у руках, для якіх дзень жыцця быў роўны веку жыцця», – падкрэсліваў выдатны кіргізскі пісьменнік Чынгіз Айтматаў.

Васіль Быкаў прыйшоў у літаратуру з палымяным жаданнем расказаць пра тое, наколькі цяжкая была мінулая вайна, «як нялёгка давалася яна нам – наша перамога», якія геройчныя намаганні мільёнаў людзей спатрэбіліся для таго, каб здабыць яе ў агні зацятых бітваў, расказаць не толькі ад свайго ўласнага імя, але і ад імя тых дзевяноста сямі працэнтаў сваіх равеснікаў, якія аказаліся менш шчаслівымі і не вярнуліся з крывавых палёў вайны.

Гэтую задачу, быў перакананы пісьменнік, можна паспяхова здзейсніць толькі пры абсалютнай шчырасці мастака і яго гранічнай, бескампраміснай праўдзівасці: «Паказаць праўду вайны без прыфарбоўвання, без лакіроўкі, – такой, якая яна ёсць». «Жорсткая бязлітасная памяць абавязвае нас, былых салдат, быць праўдзівым, сумленным да канца свайго жыцця. Яна абавязвае расказваць сённяшняму пакаленню ўсю праўду пра вайну, якой бы страшнай і трагічнай ні была гэтая праўда. Гэта наш грамадзянскі і пісьменніцкі абавязак перад мёртвымі і жывымі». «Галоўнае – сказаць праўду пра вайну. Гэта маё цвёрдае перакананне. У дачыненні да праблем мінулай вайны літаратура павінна праявіць крышталъную праўдзівасць і шчырасць. Толькі праўдзівыя і толькі да канца сумленныя сведчанні мінулай вайны могуць паслужыць чалавецтву патрэбную службу. Было б злачынствам і перад сучаснікамі, і перад будучай гісторыяй пакінуць нашчадкам паўпраўду «культаўскіх» твораў, горшую за бессаромную хлусню, белетрысцкае сачыніцельства пабочных назіральнікаў і лакіроўшчыкаў. Абавязак кожнага сведкі і ўдзельніка мінулай вайны – гаварыць толькі праўду, якой бы горкай яна ні здалася, будучы пры гэтым бязлітасным у сваёй шчырасці», – настойліва, нават з палемічнай абвостранасцю паўтараў Васіль Быкаў адну з самых запаветных, выпакутаваных сваіх думак, тых, што складалі галоўны пафас яго творчасці.

Экскурсаводы Мінска пачалі распрацоўку новай экскурсіі на радзіму народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Яны наведалі вёску Бычкі, што на Ушаччыне, дзе 19 чэрвеня 1924 года нарадзіўся і дзе прайшлі дзіцячыя гады пісьменніка. А дзяцінства, па словах пісьменніка, «выдалася скупое на радасці і труднае, як увесь той час. Часта жылося ў непаладках, нястачы».

На высокім лабастым пагорку аднойлена да 80-годдзя з дня нараджэння пісьменніка (2004) хата, дзе пісьменнік нарадзіўся. Кожнага госця хаты-музея сустракае Васіль Уладзіміравіч з партрэта пісьменніка ваеннай пары. На покуці стол. На стале кнігі В. Быкава. Каля печы драўляны ложак. У суседнім пакоі стол гаспадыні. У сенцах, каля маленькага вакенца, ручныя жорны.

У музеі экскурсаводаў сустракалі жонка брата пісьменніка і адзін з яго пляменнікаў. Яны падзяліліся ўспамінам пра свайго вялікага родзіча.

Адкрыццё экскурсійнага маршрута на радзіму народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава ў вёску Бычкі стане яшчэ адной яркай старонкай па ўшанаванні памяці пісьменніка-франтавіка.

*Мікола ЧЫРСКІ, старшыня ГА «Беларуская асацыяцыя экскурсаводаў гідаў-перакладчыкаў»*



*Фота Наталлі КУЛЯШОВАЙ*

*Нам паведамілі*

У рэдакцыю «КГ» паведамілі, што 23–24 лютага 2006 года ў будынку гістарычнага факультэта БДУ адбудзецца міжнародная навуковая канферэнцыя «Крыніцазнаўства, археаграфія, архівазнаўства ў XX–XXI стагоддзях у Беларусі. Да 100-годдзя з дня нараджэння М.М. Улашчыка». Арганізатары канферэнцыі: гістарычны факультэт БДУ, Беларускі НДІ дакументазнаўства і архіўнай справы, Археаграфічная камісія Камітэта па архівах і справаводстве Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

На канферэнцыі плануецца абмеркаваць наступныя праблемы і пытанні:

– актуальныя праблемы развіцця крыніцазнаўства, археаграфіі, архівазнаўства;
– праблемы прафесіянальнай падрыхтоўкі спецыялістаў па крыніцазнаўству, археаграфіі, архівазнаўству;
– архівы, бібліятэкі, музеі як інстытуты сацыяльнай памяці чалавецтва; праблемы ўзаемадзеяння і інтэграцыі;
– назапашванне і прапаганда гістарычных ведаў у сучаснай дзяржаве і грамадстве;
– уклад М.М. Улашчыка ў гістарыяграфію, крыніцазнаўства, археаграфію, іншыя спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны.

***Заяўкі для ўдзелу ў канферэнцыі трэба дасылаць да 20 студзеня б.г. на адрас: 220030 г. Мінск, вул. Чырвонаармейская, 6, гістфак БДУ, кафедра крыніцазнаўства, М.Ф. Шумейка,*** ці на электронны адрас: jesti@inbox.ru. Аргкамітэт канферэнцыі пакідае за сабой права адбору заявак для ўключэння ў праграму канферэнцыі, пра што праінфармуе заяўнікоў да 6 лютага.

Матэрыялы канферэнцыі будуць апублікаваны.

Даведкі па тэлефоне ў Мінску: (017) 222-36-07.

## Сучасныя беларускія краязнаўцы

*Матэрыялы да слоўніка*

**Мохар** Канстанцін Канстанцінавіч (н. 05.04.1946, пас. Малькавічы Ганцавіцкага р-на Брэсцкай вобл.), журналіст. Скончыў БДУ (1970), Інстытут палітлогіі і сацыяльнага кіравання пры ЦК КПБ (1991). Краязнаўчую дзейнасць пачаў у 1960-х гадах. Займаецца вывучэннем гісторыі Ганцавіцкага раёна. Аўтар аповесці «Апошнія дні» («Маладосць». 1998. № 11–12), артыкулаў у зборніку «Памяць. Ганцавіцкі раён», перыядычным друку.

**Муская** Таісія Канстанцінаўна (н. 12.04.1934, в. Ягаднава, Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл.). Скончыла Мінскі дзяржаўны педінстытут імя А.М. Горкага (1973). Працавала піянерважатай, настаўнікам рускай і беларускай моваў у школах Смаргонскага раёна. Настаўнікам лічыць Т.С. Ватаеву, колішнюю настаўніцу гісторыі СШ № 2 г. Смаргоні. Вывучае народны побыт Смаргоншчыны, біяграфіі знакамітых людзей раёна. Удзельнік рэспубліканскіх канферэнцый, адзін са стваральнікаў музея «Бацькоўскі кут» у гімназіі № 4 г. Смаргоні. Узнагароджана ганаровымі граматамі, дыпломамі. Аўтар артыкулаў, рэцэнзій у навуковым і перыядычным друку.



*К. Мохар*



*Т. Муская*

***Сябры-краязнаўцы, просім дасылаць у «КГ» дапаўненні і ўдакладненні звестак, што публікуюцца. Мэта – стварэнне дакладнага слоўніка.***

### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 48

**Уздоўж.** 2. Фея. 5. Пашпарт. 6. «Ручнікі». 7. Гадзіннік. 12. Хімера. 14. Ялінка. 15. Бай. 16. Умова. 17. Крыга. 18. Казак. 21. Алмаз. 24. Лунка. 26. Рагуля. 27. Кірмаш. 28. Дзева. 29. Коўцік. 30. Малако.

**Упоперак.** 1. Серпанцін. 3. Карунд. 4. Дракон. 8. Анемона. 9. Ініцыял. 10. Мішура. 11. Актава. 13. Абак. 14. Яйка. 18. Карагод. 19. Калядкі. 20. Канфецi. 21. Атакама. 22. Заранка. 23. Куцця. 25. Ярыла.





*Кароткі слоўнік*

# краязнаўча-прававой тэрміналогіі

*беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**ЛЁС** – жэрабя, што выцягвалі ў судах ВКЛ сведкі, калі іхнія супрацьлеглыя паказанні былі роўназначныя, і суд не мог аддаць перавагу аднаму. Сведку, якому яно дасталося, суд прыводзіў да прысягі.

**ЛІБЕРУМ ВЕТА** (ад лац. вольнае «забараняю») – звычай у дзяржаўным праве ВКЛ, паводле якога кожны дэпутат сейма ці сейміка мог (нават без значных доказаў) не згадзіцца з любой сеймавай пастановай, што азначала спыненне пасяджэння і скасоўвала ўсе прынятыя на гэтым сейме рашэнні. Сеймавыя пастановы набывалі сілу толькі пры аднагалосным ухваленні.

Гэтая адмысловая сярэднявечная дэмакратыя мела свае як дадатныя, так і адмоўныя бакі. Апошняе – у тым, што ліберум вета аслабляла цэнтральную дзяржаўную ўладу і пашырала феадальны партыкулярызм (ад лац. прыватны). У 1589-м аднагалоссе прызнана абавязковай умовай прыняцця сеймавых пастаноў. У 1666-м ліберум вета пашырылася і на ваяводскія сеймікі. Гэта ўмацоўвала пазіцыі найбольш заможных і ўладных феадалаў, хоць садзейнічала пашырэнню і ўсталяванню палітычнай анархіі ў дзяржаве, перашкаджала правядзенню прагрэсіўных рэформ, давала магчымасць умешвацца ва ўнутраныя справы ВКЛ моцным і хцівым замежным дзяржавам шляхам загульвання і подкупаў асобных уплывовых дэпутатаў. З 1764-га ліберум вета пачало часткова абмяжоўвацца і не дзейнічаць пры вырашэнні важных эканамічных пытанняў. Ліквідавана паводле Канстытуцыі 3 мая 1791 г.

**ЛІНІЯ** – адзінка вымярэння даўжыні ў сістэме мер ВКЛ. Раўнялася 1/2 локця – 32,48 см.

**ЛІСТ ВЫВАЛАНЫ** – вялікакняжацкая грамата. На яе падставе пэўная асоба пазбаўлялася ўсіх грамадзянскіх правоў і яе маглі выгнаць за межы краіны (вываланцы). Паводле Статута, у лісце вываланым запісвалі пэўныя звесткі пра іх і пра тое, што яны ўчынілі, і рашэнне пра выдаленне. Ліст вываланы забараняў насельнікам ВКЛ хаваць вінаватага ў сябе, падтрымліваць яго, пакуль ён не будзе памілаваны. Ліст вываланы абвяшчаўся возным, копія яго вывешвалася на людным месцы.

**ЛІСТ ЖАЛЕЗНЫ** (глейт) – ахоўная грамата ВКЛ. Яе вялікі князь выдаваў на адпаведны тэрмін, не больш як на 1 год і 6 тыдняў асобам, што пазбаўляліся грамадзянскіх правоў (вываланцы). А таксама ахоўная грамата на тэрмін да 3 гадоў даўжнікам, якія ў выніку вайны, стыхійных бедаў сталі неплацежаздольныя.

**ЛІСТ ЗАРУЧНЫ** – грамата, якую вялікі князь ВКЛ даваў падданаму, каб той умацоўваў яго асабістую бяспеку, а таксама ягоных блізкіх ва ўмовах пагрозы ад кагосьці. У ім пазначалася, у выпадку з чым ён выдаецца, указваліся прозвішчы пагрозных і таго, каго па законе неабходна было абараніць, а таксама падкрэслівалася зарука для кампенсацыі скрыўджаным. Пры сведках копію ліста заручнага возны перадаваў таму, хто меўся ўчыніць злачынства. Калі пасля гэтага той, хто паграджаў, прызнаваўся вінаватым у забойстве таго, чыя бяспека гарантавалася, яго прысуджалі да пакарання смерцю. Нават і ў тым выпадку, калі ён быў не асноўным вінаватым, а толькі саўдзельнікам у злачынстве. Так жа адказваў перад законам і той, хто меў на руках ліст заручны, калі ён дапускаў супрацьзаконныя дзеянні ў адносінах да асобы, якая ў лісце пазначалася як пагражальнік.



*Партрэтная непаліваная сцянная кафля (сяр. XVI ст., Заслаўе).*

***Факультатыў***

# Свет ад травы да зор

***Слова да настаўнікаў***

***Калегі, мы добра ведаем, што ў вашай працы шмат самых розных клопатаў. Апроч заданняў па школьнай праграме, трэба яшчэ спаўняць нямала і іншых, пазакласных турбот. У тым ліку і па краязнаўстве, якое той-сёй з вас лічыць непатрэбным клопатам.***

***Мы думаем, што настаўнікам, у першую чаргу філолагам, географам і біёлагам, на ўроках варта часцей скарыстоўваць прыклады з твораў беларускай літаратуры, каб спасцігнуць Сусвет і Край, дзе мы маем шчасце жыць і працаваць.***

***У мінулых шматлікіх нумарах «КГ» знаёміла вас з працамі доктара філалагічных навук, літаратара Алеся Бельскага. Прапануем вам яго новае даследаванне, у цэнтры якога – Яе Вялікасць Зіма.***

## *«Над Белай Руссю – белы снег...»*

У параўнанні з матывамі вясны і восені тэма зімы, зімовыя краявіды ў беларускай паэзіі, як можа падацца на першы погляд, займаюць невялікае месца. Аднак на самой справе зімовыя матывы і вобразы складаюць даволі шматлікія старонкі беларускай пейзажнай лірыкі.

Перадусім трэба сказаць, што зіма на Беларусі сапраўды адметная, нават унікальная. Яна больш працяглая і халодная, чым, скажам, у еўрапейскіх краінах – Германіі, Францыі, Венгрыі, Чэхіі, Славакіі, Румыніі, Швейцарыі, Аўстрыі і інш. У той жа час яна карацейшая, не такая лютая і марозная, як на поўначы Расіі, дзе зімовая пара складае большую частку года. У паўночных народаў увогуле пануе культ зімы, бо іхні нацыянальны свет прыроды – гэта царства снягоў і завей. Зіма глыбока ўваходзіць у светаўспрыманне і светаадчуванне нанайцаў, якія, напрыклад, адрозніваюць больш за сто адценняў снегу. А вось жыхарам Афрыкі, у якой валадарыць вечнае лета, незразумела, што такое зіма, снег, завея.

Беларуская зіма – сцюдзёная, снежная, чым падобная да рускай зімы, але адліжная і мяккая, як і ў заходнееўрапейскіх краінах. Гэта абумоўлена тым, што Беларусь знаходзіцца ў геаграфічным цэнтры Еўропы. Наша зіма доўжыцца прыкладна столькі ж, як і ў сярэдняй паласе Расіі, – крыху больш за 100 дзён. Вось які «ідэальны партрэт» беларускай зімы пададзены ў «Энцыклапедыі прыроды Беларусі»: «Для зімы на тэрыторыі Беларусі характэрна пахмурнае надвор'е (15–20 дзён у кожны зімовы месяц), туманы (амаль кожны 3-ці дзень), мяцеліцы (у сярэднім 3–5 дзён у кожны зімовы месяц), частая змена марозных і адлігавых перыядаў, бываюць галалёд, іней, шэрань». Зіма, як бачна, займае значную частку года. Не дзіўна, што гэты вобраз трывала ўвайшоў у паэтычную свядомасць нашага народа, набыў шматпланавае жывапіснае адлюстраванне, глыбокую трактоўку. Беларуская зімовая паэзія з яе багатымі ідэйна-мастацкімі вобразамі становіцца своеасаблівай і вельмі цікавай з'явай не толькі ў еўрапейскай, але і ў сусветнай паэзіі.

Зіме ў каляндарным годзе беларуса належыць асаблівае месца. Праца ў полі была ўжо даўно закончана, таму асноўныя клопаты ў гэту пару пераходзілі на гаспадарку пры хаце. «Снежань зіму пачынае, а год канчае», – так кажуць у народзе. Жанчыны зімовымі вечарамі пралі і ткалі, мужчыны плялі кашы, вязалі венікі, займаліся іншым рамяством. Зіма набірала моцы, а беларус ужо думаў пра лёс будучага ўраджаю, па прыкметах прыроды рабіў прагноз на вясну і лета: «Мароз у снежні і снег вышэй хаты – будзе год тады багаты»; «Сухі снежань – сухая вясна, сухое лета»; «Калі студзень імглісты – мокры год, халоднае лета»; «Як у лютым адгукнецца, так у жніўні адзавецца». Але самай непаўторнай акрасай беларускай зімы сталі Каляды – свята, напоўненае адухоўлена-магічнай паэзіяй прыроды. Існуюць меркаванні, што ў вобразе Каляды, якая славіцца і ўшаноўваецца ў многіх фальклорных творах, увасоблена сама Зіма.

У вобразе бурнай стыхіі зіма паўстае ў Францішка Багушэвіча: «Ўсё злягло, зіма гарцуе на спусцелым полі» («Шумяць сосны»; пераклад А. Лойкі). «Мы адвыклі ад вясны...» – чытаем у вершы Уладзіслава Сыракомлі. І гэта сапраўды так, бо ў паэзіі XIX ст. больш гаворыцца пра тыя фізічныя пакуты, цяжкасці, што нясуць селяніну-беларусу зіма, сівер, мяцеліца. Герой Ф. Багушэвіча бяжыць, бо яго «паганяе мароз» («Песня»), а «ў мяцеліцу, ў марозе... Паўзе з клункам па дарозе, У снягу увесь па брух» («Бог не роўна дзеле»). «...Бяда ў карк пагнала Такім ліхам ды марозам» і селяніна Янкі Лучыны («Што думае Янка, везучы дровы ў горад»). Мароз «скіроўвае... сілы да беднае хаты» і ў паэтавым вершы на польскай мове «Мароз». Я. Лучына звязвае з зімой няшчасную долю роднай старонкі, ён просіць-моліць сівер даць дарогу цяплу:

*Хоць бы раз без цябе*
*зарунець бы палям,*
*Хоць бы раз у свой час*
*адышла бы зіма!*
*.................................................*
*На далёк акіян убяжы ты,*
*мароз!*
*(«Сівер»)*

Сапраўднае паэтычнае адкрыццё і шматграннае асэнсаванне беларускай зімы прыпадае на пачатак XX ст. Першыя яркія карціны гэтай часіны года стварылі нашы класікі – Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, З. Бядуля, А. Гарун. У іхніх пейзажах, безумоўна, ёсць агульныя вобразна-выяўленчыя рысы, але адметнага, індывідуальна-непаўторнага ў іх найбольш.

Я. Купала, шчыры пясняр лета, не любіць зіму. Яна нясе бязмоўе, дзікую спустошанасць, духоўны прыгнёт, пакуты, згубу ўсяму жывому: «Цярпі, зямелька родная, Няма жыцця, няма» («Зіма», «Прыйшла зіма халодная...»); «Няма траўкі, няма кветак, Пуста гэтак, мёртва гэтак!» («Зіма», «Было цёпла. У аконцы...»). Сутнасць зімы паэт вызначае эпітэтамі «халодная», «жудасна-халодная», «нягодная», звязвае з ёй самыя змрочныя ўяўленні і думкі. Зіма асацыіруецца з жудаснай, жорсткай знішчальнай сілай:

*Снег белы мёртва сцелецца*
*Пасцеляй грабавой,*
*Сапе, шуміць мяцеліца,*
*Мяце снег, як мятлой.*
*Мароз, як кат бязжаласны,*
*Ў лёд рэчкі акаваў,*
*Стральбой сваёй*
*бязрадаснай*
*Па сцежках біць пачаў.*
*(«Зіма»: «Прыйшла зіма*
*халодная...»)*

Зіма ў Я. Купалы з магільным выццём і рогатам ваўкоў, што шукаюць ахвяру. Падарожны, якому «сіверна, марозна», асуджаны на расправу: няпроста выжыць яму яшчэ і таму, што зіма ў дарозе напускае сон-чары («Зімовая ноч»). Поўны беспрасветнай тугі, завейнага гулу шлях Ганулі з дзіцем на руках у паэме «Зімою», у аснове якой ляжыць фальклорнае паданне. Гэты разгул зімовых стыхій драматызуе твор, напаўняе яго пачуццём няўмольнай безвыходнасці перад згубай чалавечага жыцця: «У коміне вецер... Заносіцца песняй магільнай, дзікой», «...вые віхура, хаўтурна смяецца». Калядная мяцеліца, сняжніца, віхар, мароз знясільваюць кабету з дзіцем і хаваюць «у пасцелі пуховай са снегу». Паэт бачыць усю фатальнасць, трагізм яе лёсу і са скрухай гаворыць, што «Пад дзікай мяцеліцы шумы» ёй будзе самы лепшы спачын і прытулак.

Тое, што Я. Купалу «снег зямлі абноўленай Не міл», асабліва адчуваецца ў вершы «Снег». Як з'ява прыроды, снег бачыцца паэту нечым часовым, хуткаплынным, пра што сведчыць рэфрэн «Гэта снег, толькі снег...». Паэта больш палохае холад, лёд у сэрцах і душах людзей. Ён неаднойчы выказвае веру ў тое, што «ўваскрэсне зноў вясна», радуецца, калі «таюць сковы зімы ледзяністае» («Зіма», «Тае снег»). У мастацкай свядомасці Я. Купалы зімовыя стыхіі – алегорыя зла, сну, смерці на роднай зямлі. Зіму ён атаясамлівае з духоўным рабствам і гвалтам («Выйдзі...»). У паэме «Сон на кургане» «апісанне марозу, – як слушна разважае П. Васючэнка, – вядзе далей, у сферу касмічнага, усясветнага». Тут зімовыя стыхіі – сцюжа, мароз – надзелены звышмагутнай сілай і прадракаюць сусветную бяду, катастрофу.

***Алесь БЕЛЬСКІ***

***(Працяг будзе)***



***Горад, ускраіна, зіма***

***Фота Ігара ГРЭЧКІ***

# КАЛЯНДАР АБРАДАЎ, СВЯТ І П



20



## СТУДЗЕНЬ
ЗЯМЛЮ І ЛЮДЗЕЙ СТУДЗІЦЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | Н | НОВЫ ГОД 145 Яўхіма Карскага | ПІЛІПАЎКА |
| 2 | Пд | | |
| 3 | А | 990 Аповесці мінулых гадоў (І рэд.) | |
| 4 | Ср | | |
| 5 | Ч | | |
| 6 | Пт | ПОСНАЯ КУЦЦЯ, ТРЫ КАРАЛІ | |
| 7 | Сб | КАЛЯДЫ, РАСТВО, ЗОРКА | КРЫВЫЯ ВЕЧАРЫ, ЖАНІЦЬБА ЦЯРЭШКІ |
| 8 | Н | 60 Генадзя Каханоўскага | |
| 9 | Пд | ВАДЖЭННЕ МЯДЗВЕДЗЯ, БАБІНЫ | |
| 10 | А | ЯШЧАР | |
| 11 | Ср | 13.I – 70 Тамары Дубковай | |
| 12 | Ч | 105 Антаніны Абрамбскай-Яблонскай | |
| 13 | Пт | ШЧОДРЫК, КАЗА, КОНІКІ | |
| 14 | Сб | ВАСІЛЛЕ 70 Антона Гурскага | |
| 15 | Н | 80 Паўла Шубы, 70 Янкі Сіпакова | |
| 16 | Пд | 180 Рамуальда Траўгута | |
| 17 | А | | |
| 18 | Ср | ВАДЗЯНАЯ КАЛЯДА | |
| 19 | Ч | ВАДОХРЫШЧА | |
| 20 | Пт | ЛЯНІВЫ ДЗЕНЬ | МЯСАЕД-ВЯСЕЛЬНІЦА |
| 21 | Сб | 120 Аляксея Туранкова | |
| 22 | Н | | |
| 23 | Пд | | |
| 24 | А | | |
| 25 | Ср | ТАЦЦЯНЫ | |
| 26 | Ч | | |
| 27 | Пт | | |
| 28 | Сб | | |
| 29 | Н | | |
| 30 | Пд | 85 Івана Шамякіна | |
| 31 | А | ГУСЁЎНІК | |

## ЛЮТЫ
НАРОБІЦЬ ПЛЮТЫ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | Ср | 195 Рамуальда Зянькевіча | МЯСАЕД-ВЯСЕЛЬНІЦА |
| 2 | Ч | | |
| 3 | Пт | | |
| 4 | Сб | 260 Тадэвуша Касцюшкі | |
| 5 | Н | | |
| 6 | Пд | АКСІННЯ-ПАЎЗІМІЦА | |
| 7 | А | 80 Анатоля Фядосіка | |
| 8 | Ср | 85 Івана Мележа | |
| 9 | Ч | ЗАЛАТАВУС | |
| 10 | Пт | | |
| 11 | Сб | СТРЭЧАНЬСКІЯ ДЗЯДЫ | |
| 12 | Н | ВАСІЛЛЕ ДА РЫГОРА | |
| 13 | Пд | 14.II – 100 Мікалая Улашчыка | ДЗЕДАЎ |
| 14 | А | ГРАМНІЧНЫ БАЦЬКА | |
| 15 | Ср | СТРЭЧАННЕ-ГРАМНІЦЫ | |
| 16 | Ч | | |
| 17 | Пт | 200 Канстанціна Тышкевіча | |
| 18 | Сб | АГАТА | |
| 19 | Н | ВАЎКАЛАКІ | |
| 20 | Пд | | |
| 21 | А | | |
| 22 | Ср | ЛЫСАЯ | |
| 23 | Ч | | |
| 24 | Пт | УЛАССЕ | |
| 25 | Сб | 100 Паўла Карузы | |
| 26 | Н | | |
| 27 | Пд | МАСЛЕНКА | |
| 28 | А | | |

## САКАВІК
ЖАЎРУКОЎ ГУКАЕ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | Ср | ПАПЕЛЕЦ | ЗБОРНЫ СЫРНЫ; ВЯЛІКІ ПОСТ |
| 2 | Ч | ЦЯГАЦЬ, ВЕШАЦЬ КАЛОДКУ | |
| 3 | Пд | | |
| 4 | Сб | 5.III – 110 Кандрата Крапівы | |
| 5 | Н | ДАРАВАЛЬНАЯ, ГУКАННЕ, ЗАГАВІНЫ | |
| 6 | Пд | ШЫЛЬНЫ, ПАЛАСКАЗУБ | |
| 7 | А | | |
| 8 | Ср | | |
| 9 | Ч | ПАЎРАЦЕННЕ | |
| 10 | Пт | | |
| 11 | Сб | ЗБОРНАЯ, СПОВЕДЗЬ ДЗЕЖКІ | |
| 12 | Н | ЗБОР | |
| 13 | Пд | | |
| 14 | А | ВЯСНА | |
| 15 | Ср | ЛЕТА | |
| 16 | Ч | ВОСЕНЬ | |
| 17 | Пт | ЗІМА | |
| 18 | Сб | | |
| 19 | Н | | |
| 20 | Пд | РАЎНАДЗЕНСТВА | |
| 21 | А | РАЎНАДЗЕНСТВА | |
| 22 | Ср | САРАКІ | |
| 23 | Ч | 100 Ісака Любана | |
| 24 | Пт | | |
| 25 | Сб | РЫГОР – СПУСЦІЎ ВАДУ З ГОР | МІЖЗВЕСТАВАЛЬНЫ |
| 26 | Н | | ХРАШЧАТЫ |
| 27 | Пд | 100 Лідзіі Мухарынскай | |
| 28 | А | | |
| 29 | Ср | СЕРАДАПОСЦЕ | |
| 30 | Ч | 75 Аляксея Пяткевіча | |
| 31 | Пт | ЦЕПЛЫ АЛЯКСЕЙ | |







## ЛІПЕНЬ
ПЯКУЧЫ, АЛЕ ДАРУЧЫ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | Сб | 85 Таварыства беларускай школы | ПЯТРОЎКА |
| 2 | Н | | |
| 3 | Пд | ПЕРАПЯЛЯТНІК | |
| 4 | А | | |
| 5 | Ср | | |
| 6 | Ч | КУПАЛЛЕ | |
| 7 | Пт | КУПАЛЬНЫ 210 Яна Чачота | |
| 8 | Сб | | |
| 9 | Н | | |
| 10 | Пд | | |
| 11 | А | | |
| 12 | Ср | ПЯТРО | |
| 13 | Ч | ПАЎЛА 180 Аляксандру Афанасьеву | |
| 14 | Пт | КУЗЬМА-ДЗЯМ'ЯН | |
| 15 | Сб | 130 Алаізы Пашкевіч-Цёткі | |
| 16 | Н | 17.VII – 80 Анатоля Аксамітава | |
| 17 | Пд | АНДРЭЙ-НАЛІВА | |
| 18 | А | | |
| 19 | Ср | | |
| 20 | Ч | 150 Часлава Пяткевіча | |
| 21 | Пт | ЗАЖЫНКІ 70 Юліі Чурко | |
| 22 | Сб | 70 Валянціны Гаявой | |
| 23 | Н | | |
| 24 | Пд | 95 Анатоля Астрэйкі | |
| 25 | А | | |
| 26 | Ср | | |
| 27 | Ч | | |
| 28 | Пт | | |
| 29 | Сб | | |
| 30 | Н | СЕРПАВІЦА | |
| 31 | Пд | | |

## ЖНІВЕНЬ
З СЯРПОМ НА ПАЛІ ПАЙШОЎ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | А | МАКРЫНЫ | |
| 2 | Ср | ІЛЛЯ | |
| 3 | Ч | | |
| 4 | Пт | | |
| 5 | Сб | | |
| 6 | Н | ХЛЕБ-БАРЫС | |
| 7 | Пд | ГАННЫ-ЖНЕІ | |
| 8 | А | | |
| 9 | Ср | ПАЛІКОПЫ 80 Янкі Запрудніка | |
| 10 | Ч | | |
| 11 | Пт | 150 Уладзіміра Дабравольскага | |
| 12 | Сб | СІЛА | |
| 13 | Н | СПАСАЎСКІЯ ЗАПУСКІ | |
| 14 | Пд | МАКАВЕЙ, ЗЕЛЬНАЯ | СПАСАЎКА |
| 15 | А | БАЗЫЛЬ | |
| 16 | Ср | ВІХРАВЕЙ | |
| 17 | Ч | | |
| 18 | Пт | | |
| 19 | Сб | ЯБЛЫЧНЫ СПАС | |
| 20 | Н | | |
| 21 | Пд | | |
| 22 | А | | |
| 23 | Ср | ЛАЎРЭН | |
| 24 | Ч | | |
| 25 | Пт | 27.VIII – 100 Сяргея Новіка-Пяюна | |
| 26 | Сб | СПАСАЎСКІЯ ДЗЯДЫ | |
| 27 | Н | 180 Паўла Шэйна | |
| 28 | Пд | ПРАЧЫСТА 70 Генадзя Бураўкіна | |
| 29 | А | ХЛЕБНЫ СПАС, ДАЖЫНКІ | |
| 30 | Ср | МІРОНЫ | |
| 31 | Ч | КАПЫТЫ, ГАРАБІНАВА НОЧ | |

## ВЕРАСЕНЬ
ПОЎНАЕ ГУМНО І КІШЭНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | Пт | 50 Уладзіміра Салодкага | БАБІНА ЛЕТА ЛЕТА МАЛАДЗІЦ |
| 2 | Сб | | |
| 3 | Н | | |
| 4 | Пд | 70 Сакрата Яновіча | |
| 5 | А | ЛУПА – ЖЫТА КУПА | |
| 6 | Ср | | |
| 7 | Ч | БАЎТРАМЕЙ – ЖЫТА СЕЙ | |
| 8 | Пт | | |
| 9 | Сб | 70 Арнольда Міхневіча | |
| 10 | Н | МАЦЕЙ | |
| 11 | Пд | КАЛІНАВІК, ГАЛАВАСЕК | |
| 12 | А | 14.IX – 80 Льва Шакуна | |
| 13 | Ср | ЖАНІЦЬБА КОМІНА | |
| 14 | Ч | СЫМОН-СТОЎПНІК | |
| 15 | Пт | | |
| 16 | Сб | 60 Сяргея Законнікава | |
| 17 | Н | | |
| 18 | Пд | | |
| 19 | А | ЦУДЫ | |
| 20 | Ср | 22.IX – 60 Галіны Таўлай | |
| 21 | Ч | БАГАЧ, ЗАСІДКІ | |
| 22 | Пт | РАЎНАДЗЕНСТВА | |
| 23 | Сб | РАЎНАДЗЕНСТВА | |
| 24 | Н | ТАДОРА | |
| 25 | Пд | | |
| 26 | А | | |
| 27 | Ср | УЗВІЖАННЕ | |
| 28 | Ч | | |
| 29 | Пт | | |
| 30 | Сб | 75 Ніла Гілевіча | |



Святочная культура беларусаў
прымеркаванасць галоўных св
календара. Вялікдзень, Купал
лізуюць вясенне-восеньскія ра
вы сонцавароты. Дэмакраты
ў адносінах да дахрысціянск
язычніцкіх свят і абрадаў бела
ў народнай падсвядомасці яны
(старому) каляндару (ён адст
скага на 13 дзён). Перасоўн
Вялікадня: на восьмым тыдні
сямітыднёвы Вялікі пост, а на
Тройца, за якімі ідзе Русалы
куюцца ў суботу перад 8-

Краязнаўчая газета



# …АМЯТНЫХ ДЗЁН БЕЛАРУСАЎ

# …06



## КРАСАВІК
ЗЯМЛЮ КРАСУЕ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Сб | ВЯСНОЎКА |
| 2 | Н | |
| 3 | Па | |
| 4 | А | ВАСІЛЬ СОНЕЧНІК |
| 5 | Ср | 6.IV – 60 Валянціны Коўтун |
| 6 | Ч | КАМАЕДЗІЦА |
| 7 | Пт | ЗВЕСТАВАННЕ |
| 8 | Сб | |
| 9 | Н | |
| 10 | Па | |
| 11 | А | |
| 12 | Ср | |
| 13 | Ч | |
| 14 | Пт | ДАМАВІК, ПАХВАЛЬНАЯ |
| 15 | Сб | 100 Івана Гутарава |
| 16 | Н | ВЕРБНАЯ 50 Валянціны Гладкай |
| 17 | Па | |
| 18 | А | 23.IV – 120 Змітрака Бядулі |
| 19 | Ср | |
| 20 | Ч | ЧЫСТЫ |
| 21 | Пт | ЧЫРВОНАЯ |
| 22 | Сб | ВЕЛІКОДНАЯ УСЯНОЧНАЯ |
| 23 | Н | ВЯЛІКДЗЕНЬ ВАЛАЧОБНЫ |
| 24 | Па | ВЕЛІКОДНЫ |
| 25 | А | ВЕЛІКОДНЫ |
| 26 | Ср | 20 Чарнобыльскай трагедыі |
| 27 | Ч | НАЎСКІ ВЯЛІКДЗЕНЬ |
| 28 | Пт | |
| 29 | Сб | АРЫНА |
| 30 | Н | ЗОСІМ, АДРЫЯНАВА НОЧ |

МІЖЗВЕСТАВАЛЬНЫ · ПАХВАЛЬНЫ · ВЯЛІЧКА ВЕРБНІЦА · ВАДЖЭННЕ СТРАЛЫ · ВЯЛІКІ ПОСТ

## ТРАВЕНЬ
ТРАВЫ РОСЦІЦЬ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Па | 75 Алега Лойкі |
| 2 | А | РАДАЎНІЦА |
| 3 | Ср | |
| 4 | Ч | |
| 5 | Пт | ЛЯЛЬНІК 70 Васіля Якавенкі |
| 6 | Сб | ЮР'Е |
| 7 | Н | |
| 8 | Па | |
| 9 | А | |
| 10 | Ср | ЯРЫЛАВІЦА |
| 11 | Ч | БАБСКІЯ РОЗБРЫКІ |
| 12 | Пт | 15.V – 70 Барыса Сачанкі |
| 13 | Сб | 100 Эдуарда Галубка |
| 14 | Н | МАКАРЭЙ |
| 15 | Па | БАРЫС-КАЖАЛУП |
| 16 | А | |
| 17 | Ср | 18.V – 100 «Загляне сонца і ў наша аконца» |
| 18 | Ч | РАСАДНІЦА |
| 19 | Пт | 70 Міхася Ліліпенкі |
| 20 | Сб | |
| 21 | Н | МІКОЛЬНІК |
| 22 | Па | МІКОЛА |
| 23 | А | |
| 24 | Ср | КІРЫЛАВІЦА |
| 25 | Ч | |
| 26 | Пт | |
| 27 | Сб | |
| 28 | Н | 170 Яна Карловіча |
| 29 | Па | |
| 30 | А | |
| 31 | Ср | КАНАПЕЛЬКА |

ФАМІНЫ · МІКОЛЬСКІ · ВАДЖЭННЕ СТРАЛЫ

## ЧЭРВЕНЬ
СЕНА РЫХТУЕ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Ч | УШЭСЦЕ, ПАХАВАННЕ СТРАЛЫ |
| 2 | Пт | |
| 3 | Сб | |
| 4 | Н | ВАСІЛІСКА |
| 5 | Па | ПРАДСЛАВЫ |
| 6 | А | 165 Элізы Ажэшкі |
| 7 | Ср | ЯН |
| 8 | Ч | СЯМІК |
| 9 | Пт | 125 Івана Луцкевіча |
| 10 | Сб | ТРАЕЦКІЯ ДЗЯДЫ, ЗЕЛЯНЕЦ |
| 11 | Н | ТРОЙЦА, КУСТА |
| 12 | Па | ПРОВАДЫ РУСАЛКІ |
| 13 | А | |
| 14 | Ср | |
| 15 | Ч | НАЎСКАЯ ТРОЙЦА |
| 16 | Пт | |
| 17 | Сб | |
| 18 | Н | РОЗЫГРЫ |
| 19 | Па | |
| 20 | А | СОНЦАВАРОТ |
| 21 | Ср | СОНЦАВАРОТ |
| 22 | Ч | ДЗЕВЯТНІК |
| 23 | Пт | ДЗЕВЯТУХА |
| 24 | Сб | |
| 25 | Н | |
| 26 | Па | АКУЛІНА – ЗАДЗЯРЫ ХВОСТ |
| 27 | А | |
| 28 | Ср | |
| 29 | Ч | |
| 30 | Пт | |

РУСАЛЬНЫ СЁМУХА



## КАСТРЫЧНІК
ЛЁН КАСТРУЕ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Н | |
| 2 | Па | |
| 3 | А | |
| 4 | Ср | |
| 5 | Ч | |
| 6 | Пт | 130 Яна Булгака |
| 7 | Сб | |
| 8 | Н | |
| 9 | Па | ШАПТУН ПАКРОЎНЫ |
| 10 | А | САЎКІ |
| 11 | Ср | ПАКРОЎНЫ БАЦЬКА |
| 12 | Ч | |
| 13 | Пт | 110 Мікалая Шчакаціхіна |
| 14 | Сб | ПАКРОЎ |
| 15 | Н | |
| 16 | Па | |
| 17 | А | |
| 18 | Ср | 19.X – 100 Марыі Жыдовіч |
| 19 | Ч | 190 Максімільяна Маркса |
| 20 | Пт | |
| 21 | Сб | |
| 22 | Н | |
| 23 | Па | 410 Берасцейскай уніі |
| 24 | А | |
| 25 | Ср | МЛЫНАРЫ |
| 26 | Ч | |
| 27 | Пт | |
| 28 | Сб | |
| 29 | Н | 30.X – Дзень памяці ахвяр рэпрэсій |
| 30 | Па | ПАКЛОНЫ 85 Белдзяржуніверсітэта |
| 31 | А | ЛУКАША – ДЗЕЎКА НАША |

ДЗЯВОЧАЕ ЛЕТА · ВЯЛІКАЯ ВЯСЕЛЬНІЦА

## ЛІСТАПАД
ЗІМЕ ВЕЛЬМІ РАД

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Ср | |
| 2 | Ч | |
| 3 | Пт | 4.XI – 190 Арцёма Вярыгі-Дарэўскага |
| 4 | Сб | ДЗЯДЫ |
| 5 | Н | |
| 6 | Па | 7.XI – 100 Міхася Кацара |
| 7 | А | 110 Міхася Чароты |
| 8 | Ср | ЗМІЦЕР-ХІЦЕР |
| 9 | Ч | |
| 10 | Пт | ПЯЦЁНКА 100 Нашай Нівы |
| 11 | Сб | |
| 12 | Н | ПРАЛЛІ |
| 13 | Па | 200 Эміліі Плятэр |
| 14 | А | КУЗЬМІНКІ |
| 15 | Ср | |
| 16 | Ч | БАБЫ |
| 17 | Пт | |
| 18 | Сб | МІХАЙЛАЎСКІЯ ДЗЯДЫ – БАБЫ |
| 19 | Н | 70 Эрнеста Ялугіна |
| 20 | Па | |
| 21 | А | МІХАЙЛА |
| 22 | Ср | МАТРОНА |
| 23 | Ч | |
| 24 | Пт | ХВЕДАР-СТУДЗЯНЕЦ |
| 25 | Сб | ПІЛІПАЎСКІЯ ДЗЯДЫ |
| 26 | Н | 25.XI – 150 Сяргея Танеева |
| 27 | Па | |
| 28 | А | ПІЛІПАЎКА, ЗАПУСТЫ |
| 29 | Ср | |
| 30 | Ч | |

ЗМІТРАЎКА · ВЯЛІКАЯ ВЯСЕЛЬНІЦА · ПІЛІПАЎКА

## СНЕЖАНЬ
СНЕГАМ БЕЛІЦЬ

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Пт | |
| 2 | Сб | 120 Міколы Равенскага |
| 3 | Н | |
| 4 | Па | УВЯДЗЕННЕ |
| 5 | А | |
| 6 | Ср | ВАРАЖБІТ |
| 7 | Ч | 25 ВНЛ беларускага фальклору БДУ |
| 8 | Пт | |
| 9 | Сб | ЮР'Е 115 Максіма Багдановіча |
| 10 | Н | |
| 11 | Па | 130 Мечыслава Карловіча |
| 12 | А | |
| 13 | Ср | ДЗЯВОЧЫЯ ВАРОЖБЫ |
| 14 | Ч | НАВУМ-НАСТАЎНІК |
| 15 | Пт | |
| 16 | Сб | 19.XII – 170 Дз.Аграневу-Славянскаму |
| 17 | Н | БАРБАРЫ, МІКОЛІНА МАТКА |
| 18 | Па | САВЫ, МІКОЛІН БАЦЬКА |
| 19 | А | МІКОЛА |
| 20 | Ср | 21.XII – 210 Тамаша Зана |
| 21 | Ч | СОНЦАВАРОТ |
| 22 | Пт | СОНЦАВАРОТ |
| 23 | Сб | |
| 24 | Н | 25.XII – 70 Ліліі Давідовіч |
| 25 | Па | РАСТВО, БАТЛЕІ |
| 26 | А | |
| 27 | Ср | 170 Валеры Урублеўскага |
| 28 | Ч | |
| 29 | Пт | |
| 30 | Сб | 31.XII – 60 Мікалая Купавы |
| 31 | Н | НОВЫ ГОД |

ПІЛІПАЎКА ПІЛІПАЎКА

…авала старажытнейшую … абрадаў да сонечнага … Дзяды і Каляды сімва… дзенствы і летне-зімо… праваслаўнай канфесіі … прыродна-натуральных …аў тлумачыць тое, што …каваліся па юліянскаму … ад новага грыгарыян… святы адлічваюцца ад …д ім Масленка і затым …мым пасля — Сёмуха, … тыдзень. Дзяды свят… лістапада.



БЕЛАРУСКІ САЮЗ ФАЛЬКЛАРЫСТАЎ



Камп'ютарны дызайн: Вадзім Нога

## Калекцыянерам, і не толькі

### Адной са старажытных гульняў

беларуская пошта прысвяціла выпуск дзвюх марак. На мініяцюрах **№ 626** і **№ 627** адлюстраваная гульня ў шахматы.




Першая ўзгадка пра шахматы ёсць у персідскай паэме (570 г. да Н. Х.), у якой вынаходніцтва гульні прыпісваецца індусам. Назва паходзіць ад персідскага «шах мат», што азначае «кароль памёр». У Сярэднявечнай Еўропе шахматы вядомыя з X–XI стагоддзя, пасля заваёвы арабамі Грэцыі і Сіцыліі. Археалагічныя знаходкі (Полацк, Мінск, Слуцк і інш.) адносяць з'яўленне шахмат у нашай краіне да XII–XIII стст. Поўнае ўсталяванне правілаў гульні адбылося гадоў 125 таму. У 1924 годзе ў Парыжы была заснаваная Міжнародная федэрацыя шахматаў (ФІДЭ). Беларуская ж федэрацыя была створаная ў 1992 годзе, а праз два гады нашыя мужчынская і жаночая каманды бралі ўдзел у Сусветнай шахматнай Алімпіядзе, дзе ўвайшлі ў дзесятку наймацнейшых свету. На сёння ў нашай краіне спартовым званнем «міжнародныя гросмайстары» валодаюць 8 мужчынаў і 4 жанчыны.




Мастак марак Шаміль Хайрулін. Памер 30 х 28 мм, наклад – 97 500 і 90 000 асобнікаў адпаведна. Да выпуску выдадзеныя таксама дзве па-мастацку аздобленыя кніжкі марак, у якіх – аркуш (138 х 74 мм) з 7 марак і купонам. Маркі ў кніжках – без купонаў і маюць нумары 626 А і 627 А.

### Архітэктуры старажытнай Беларусі

прысвечаны **блок № 49** з **маркамі № 628 і № 629**. На першай змешчана выява гродзенскага замка Вітаўта (з гравюры XVI ст.), на другой – рэканструкцыя замка ў Лідзе XIV–XV стагоддзяў.

Мастак Віктар Маркавец. Памер марак у блоку 40 х 30,24 мм, блока – 113 х 73 мм, наклад 15 000 асобнікаў.

Удзень выхаду ў абарачэнне ў паштовым аддзяленні № 11 горада Ліды прайшло спецыяльнае памятнае гашэнне на канверце «Першы дзень».




### Радасным святам

Нараджэння Хрыстова і Новага года прысвечана марка **№ 630**. Яе намалявалі Андрэй Мамаеў і Іван Лукін. Памер мініяцюры 40 х 28 мм, наклад 76 500 асобнікаў. Маркі друкаваліся ў аркушах двух тыпаў (па 3 х 3 маркі, поле аркуша фіялетавае і 8 алюс купон, поле срабрыстае).

У дзень выхаду на Мінскім паштамце праводзілася спецгашэнне на канверце «Першы дзень».

***Вялікі дзякуй за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялаў рубрыкі супрацоўнікам выдавецкага цэнтра «Марка» РУП «Белпошта»***

## Царкоўнае краязнаўства

# Свята-Петра-Паўлаўская саборная царква

***Храм у імя апосталаў Пятра і Паўла знаходзіўся на ўскрайку «новага мястэчка». Заснавальнікам царквы і уніяцкага манастыра, па словах пісьменніка Альшэўскага, у Быцені з'яўляўся Рыгор Трызна – з праваслаўнага баярства Браншчыны, маршалак слонімскі. Будаўніцтва храма адносяць у вядомых крыніцах да 2-й паловы XVII ст. Храм быў асвечаны ў гонар Святой Тройцы, а манастыр – у імя Святога Васіля Вялікага.***

Да храма ў пачатку XVIII ст. былі дабудаваны дзве вежы, якія ўпрыгожылі ўваходны фасад. Царква была двухпавярховай, са склепам і пахавальняй пад ёй. Ніжні паверх быў у выглядзе 4-вугольніка, а верхні – рознабаковага крыжа. Над алтаром быў купал, а ў сценах меліся хады, якія пачыналіся ў рызніцы. Даўжыня храма была 20 сажняў і 1 аршын (1 сажань – 2,1336 м, 1 аршын – 0,7112 м), шырыня – 11 сажняў і 1 аршын, таўшчыня сцен 2 аршыны, вышыня 1 паверха – 3 сажні і 12 вяршкоў (1 вяршок – 44,45 мм). Вышыня ад падлогі да столі купала 13 сажняў і 2 аршыны.

Сцены храма былі зроблены з цэглы суцэльнай кладкі, з тонкім цэментным пластам, крыху зменены пры дабудове 2 вежаў. Звонку сцены гладкія, сярэдзіна царквы абведзена трайным затынкаваным поясам. Дах на зводах шатровы на 2 скаты, таксама, як і купал, накрыты гонтай. Ён быў адноўлены пасля пажару 1837 г. На цвінтары, з аднаго боку, пры ўваходзе ў рызніцу меліся два камяні з гербамі роду Трызны. Царква была крыжападобная з адным прытворам. Па баках алтара на абодвух паверхах меліся па дзве трапезныя палаты, злучаныя ходам у сцяне за алтаром. З левага боку быў склеп, у якім пахаваны 2 архімандрыты. Адзін з іх, Сімяон Стаўроўскі, па паданні перанесены базыльянамі пры заснаванні манастыра. Прастол драўляны без узвышэнняў, нічым не абкладзены і не меў ніякіх надпісаў. Яго вышыня – 1 аршын і 5,5 вяршкі, шырыня і даўжыня 2 аршыны і 2 вяршкі. Горняе месца пад паўкруглым зводам без сені, над ім і па баках абразы ў разныхківотах. Драўляны разны іканастас быў пазалочаны, размяшчаўся ў адзін ярус. Перад алтаром драўляная салея на 2 прыступкі вышэй памоста храма, аддзелена каля кліpасаў агароджай. Царква з 3-х бакоў агароджана цаглянаю сцяною, накрытай гонтай на 2 скаты. На ўсход, за царкоўнай агароджай стаяла званіца, на якой знаходзілася 6 званоў.

На 1-м звоне (каля 50 пудоў) з аднаго боку быў надпіс на царкоўнаславянскай мове: «Я, Гавриил, предстоятель с небес быть (глашатаем) рещи Бцы радуйся. Радуйся, же ради радость воссияет. Радуйся, ея же ради клятва исчезнет. Радуйся, падшего Адама возвания. Радуйся, слёз Евиных избавление. Радуйся, высотонеудобовосходимая человеческими помыслами. Радуйся, глубинонеудобозримая анаельскима очима. Радуйся, невеста невестная». З другога боку звона гэты надпіс быў зроблены на латыні. Год адліўкі звона не пазначаны.

На 2-м звоне знаходзіўся герб роду Трызнаў з надпісам: «Nicolaus Trysna» 1633. Гэта гаворыць аб тым, што храм быў пабудаваны не ў другой палове XVII ст., як сказана вышэй, а значна раней. Узнікае думка, што каменны храм будаваўся на месцы драўлянага, вакол якога і ўзнік сам манастыр.

На 3-м быў надпіс: «Петропавловской Бытенской церкви в память в Бозе почившего государя – наследника царевича Николая Алексеевича, 12 февраля 1865 года. Благословение митрополита Литовского и Виленского Иосифа Преосвященного». Тут жа быў герб і надпіс на латыні: «Abragam eger fegit Anno Domini 1664».

На 4-м быў толькі год 1774, на 5-м – 1781 г., на 6-м ніякіх надпісаў не было.

Да славутасцяў саборнай царквы адносілася мноства абразоў. У алтары на Горнім месцы знаходзіўся ківот, у якім размяшчаўся абраз Божай Маці з Немаўляткам на правай руцэ. Абраз на халсце ў старажытна-грэчаскім стылі, вакол абраза надпіс кірылічнымі літарамі: «Честнейшую Херувим и славнейшую в истину Серафим безъистления Бога Слова родшую сущую Бцу Тя величаем».

Над Горнім месцам быў замацаваны суцэльны ківот, упрыгожаны разьбой, сярэдзіну якога займаў абраз святой Тройцы. З правага боку размяшчаўся абраз трох апосталаў, сярод іх – выява апостала Паўла з мячом у руцэ. Па левы бок – таксама абраз трох апосталаў, пасярэдзіне – апостал Пётр з ключамі ў руцэ. У верхняй частцы гэтага ківота было выразана з дрэва «ззянне», усярэдзіне якога на трохвугольнай дошчачцы яўрэйскімі літарамі надпіс – Іегова святло. З правага боку гэтай дошчачкі была выява Маісея і Ісуса Навіна, а з левага – Давіда і першасвятара Арона. Абразы гэтага ківота адносіліся да старажытнага іканапісу (прыкладна XV ст.).

На правым баку алтара размяшчаліся абразы святога Васіля Вялікага, Іаана Златавуста, святога Алексія мітрапаліта Маскоўскага Цудатворца, абраз Уваскрэшання Хрыстова, святога Дзмітрыя Растоўскага Цудатворца. З левага боку – абразы святога Грыгорыя Дваяслова, святога Іоны, мітрапаліта Маскоўскага, абраз Раства Хрыстова, святога Філіпа, святога Пятра. Прывезены яны з Масквы, пісаныя на халсце і падораныя Іванам Іванавічам Чацверыковым. Царскія вароты былі разныя, на іх размяшчаліся абразы чатырох евангелістаў, Прасвятой Дзевы Марыі і Архангела Гаўрыіла з фінікавай галінкай у руцэ.

Перад правым кліpасам знаходзіўся ківот, складзены з трох ярусаў. У першым – абразы Праабражэння Гасподня, у другім – падарожжа святога сямейства ў Іерусалім на свята Пасхі, у трэцім – невядомага святога. Перад левым кліpасам такі ж ківот. У першым ярусе – абраз Благавешчання, у другім – Узнясення Гасподня, у трэцім – невядомага святога. Над дзвярыма ў рызніцу – абраз Архангела Міхаіла, каля яе старадаўні трохярусны ківот. У ім размяшчаліся абразы Раства Хрыстова, Хрышчэння Гасподня, Стрэцення Гасподня, Уваскрашэння Хрыстова, апосталаў Пятра і Іаана, жонак-міраносіц, абраз Вялікамучаніка Георгія. На левым баку, над дзвярыма ў склеп – абраз Архангела Гаўрыіла. Дзверы ў склеп закрываў абраз апосталаў Пятра і Паўла, які цяпер у Белаазёрску. Каля дзвярэй у рызніцу – ківот з абразамі Раства Дзевы Марыі, Успення Божай Маці, Увядзення ў храм Божай Маці, Пакровы, прарока Ісаі са світкам у руках. У верхнім ярусе – выява вогненнага слупа. У храме было мноства іншых абразоў.

Мелася пяць срэбных паціраў, 84-й пробы, пяць дыскасаў і звяздзіцаў, чатыры лжыцы, дзве даразахоўніцы, шэсць напрыстольных крыжоў, адзін з якіх ахвяраваў маскоўскі купец Барыс Глінскі. Мелася пяць Евангелляў: 2 – 1765 г., 1 – 1850, ахвяраванае Вялікім князем Канстанцінам Мікалаевічам, 1 – 1857, ахвяраванае ў 1867 г. графам Дзмітрыем Блудам, 1 ахвяравана унтэр-афіцэрам лейб-гвардыі Літоўскага палка, Георгіеўскім кавалерам Міхаілам Адамавічам Ламейкам.



Пры храме быў царкоўны архіў, які пры закрыцці манастыра быў вывезены часткова ў Жыровіцкі манастыр, а часткова – у Вільню. У 1867 г. ураган пахіліў крыж на царкоўным купале. У 1914 г. храм наведаў епіскап Уладзімір (Ціханіцкі). Яго сустракалі быценьскі благачынны святар Пятроўскі, настаяцель – протаіерэй Івацэвіч, павятовы назіральнік царкоўных школ святар Смірноў, святар Быценьскай царквы айцец Юзвюк. Падчас ваенных дзеянняў Першай сусветнай вайны ў 1915 г. царква значна пацярпела, у 1929 г. часткова адноўлена, дзейнічала. У перыяд 1939–1944 гг. канчаткова зруйнавана.

*Ларыса МАКАРЭВІЧ,*
*супрацоўнік РЦПР, г. Нясвіж*

**Да 70-годдзя Генадзя Кахаnоўскага**

***Кахаnоўскі Генадзь Аляксандравіч... Колькі для мяне, тады пачынаючага краязнаўцы, азначала гэта імя, нават і ўявіць цяжка... Спачатку мы пазнаёміліся завочна. Я тады жыў з сям'ёй у Рагачове, пачаў працаваць настаўнікам гісторыі і з сябрамі імкнуўся актывізаваць мясцовы краязнаўчы рух. Мы стварылі краязнаўчае таварыства «Замчышча», адзін з сяброў якога, Аляксандр Лейкін, пачаў распрацоўваць наш статут.***

***Мы атрымалі інфармацыю, што пры Беларускім аддзяленні Савецкага фонда культуры створана краязнаўчая камісія на чале з Г.А. Кахаnоўскім, якая імкнецца арганізаваць краязнаўчы рух у краіне і збірае ўсю магчымую інфармацыю аб краязнаўцах, таварыствах і г.д., каб у снежні 1989 г. склікаць у Мінску канферэнцыю. На адным з першых пасяджэнняў нашага таварыства «Замчышча» было прынята рашэнне даслаць у камісію ліст з просьбай зарэгістраваць нас (за ўсю перапіску адказным прызначылі мяне). 10.04.1989 г. я даслаў ліст на адрас камісіі, а ўжо 14.04.1989 г. атрымаў вялікі ліст ад Генадзя Аляксандравіча (на жаль, захавалася толькі копія). Памятаю, мы чыталі яго ўслых на чарговым пасяджэнні і былі вельмі ўражаны моваю і шчырасцю аўтара (прызнацца, мы яшчэ толькі пачыналі размаўляць на роднай мове, і на фоне нашай трасянкі, можна ўявіць, як гучала слова Кахаnоўскага!). Напрыканцы ліста Генадзь Аляксандравіч запэўніў нас, што абавязкова запросіць на снежаньскую краязнаўчую канферэнцыю.***

***Так і адбылося.***

# Мой настаўнік

*«Паважаны Андрэй Пятровіч!*

*Дзякуй за анкету і за пісьмо! Хоць буду ведаць, што з Вамі, а то нешта не чуваць і не відаць.*

*Віншую з завяршэннем адукацыі! Новых поспехаў на новым месцы!*

*Вы, аказваецца, равеснік майго сына. Толькі ён яшчэ не жанаты. Таксама гісторык і гэтую прафесію выбраў сам, без маёй падказкі, а дачка вучыцца на белар. філфаку БДУ. Праўда, сын выбраў другі кірунак. Яго дысертацыя па сацыялістычных працэсах на Беларусі дакастрычніцкай пары.*

*Крупшчыну я добра ведаю. Усю яе аб'ехаў. Некалі дапамагаў арганізоўваць музей у Халопенічах (этнаграфічны), а ў Бабры краязнаўчы. Што там цяпер, не ведаю. Пісаў трохі пра той кут. Некалі быў добры музей у Абчугскай школе. Там быў краязнавец Іван Рабкоў (ужо памёр).Дружыў я з самым старэйшым краязнаўцам з Дакудава В.А. Самцэвічам. Пісаў пра яго ў энцыклапедыю. Таксама ўжо памёр. Край мне гэты падабаецца. Быў там яшчэ пісьменнік-краязнавец Іван Шуцько, працаваў у раён. газеце «Ленінскім курсам». Таксама памёр. Зараз я дружу з крупскім паэтам, сакратаром СП БССР Васілём Зуёнкам. Добры чалавек і таленавіты беларускі паэт. Калі Кавалёнак лятаў у космас, ён браў з сабой зборнік паэзіі В. Зуёнка «Нача». А лятаў ён больш ста сутак, то Рыгор Барадулін сказаў: «Не іначай, зачытаўся «Начай».*

*Край я гэты ўспамінаю з прыемнасцю. Ніколі не забуду прыгожыя посцілкі-выцінанкі, вачэй не адвесці. Вось майстрыцы. Здаецца, у Ігрушцы сустракаў рэдкія па выкананні гаршкі. У Старых Шчаўрах стары дзед расказваў мне легенду пра жыццё там В. Дуніна-Марцінкевіча. Багаты край на гісторыю, на песні. Краязнаўцу трэба быць гарманічнай асобай, усё ведаць і любіць, што звязана з роднымі мясцінамі. Аднабокай сухадрэвінай не выпадае жыць. Ды і жыцця няма.*

*Прыпамінаю Янаўшчыну, Якімаўку, Выдрыцу, Вайкавыск, Абчугу... Так шмат там легенд, паданняў.*

*Так што Вам будзе чым заняцца, толькі вывучайце мову, духоўную і матэрыяльную культуру свайго народа, «сухая» гісторыя будзе сухой, але яна не ажывае, не адухоўліваецца.*

*Пільнуйце ў крупскай кнігарні навінкі, каб у Вас збіралася бібліятэка. Вышлі кнігі Аляксея Каўкі «Тут мой народ», Міколы Ермаловіча «Па слядах аднаго міфа». У часопісе «Маладосць» друкуецца нарыс М. Ермаловіча «Старажытная Беларусь», спытайце ў кіёсках, пачытайце.*



*Даруйце, што так шмат пішу пра ўсё гэта. Проста я і сам увесь час вучуся, чытаю. Шкадую, што часу мала. І Вам раю дружыць з кнігай, з бібліятэкай. Прачытайце артыкулы А. Залескага і М. Ткачова ў «Полымі» (1989, № 7). Там дыскусія па гісторыі. Гэта лепшая навука для маладога чалавека. Калі не палянуецеся, напішыце, як уражанне?*

*Усяго Вам добрага.*
*6. VIII. 89.*

*З пашанай*
*Г. Кахаnоўскі.*

***P.S.*** *Не забывайце і пра «Замчышча», няхай і там жыве цяпельца нашай гісторыі і культуры. Напішыце і Вашым сябрам у Рагачоў, няхай дабудуць гэтыя кнігі і публікацыі. Пабагацеюць».*



*Г. Кахаnоўскі (злева) падчас круглага стала ў «Мінскай праўдзе» (1990 г.)*

Таму на краязнаўчую канферэнцыю ў Мінск мы паехалі ад Крупак, а з Рагачова прыехаў мой сябра Алесь Лейкін.

Рэспубліканская краязнаўчая канферэнцыя «Праблемы беларускага краязнаўства» адбывалася 25–27 снежня 1989 г. у мінскім Доме літаратара. Хто быў удзельнікам – ніколі не забудзе таго ўзнёсла-рамантычнага і аптымістычна-працоўнага настрою! Зала была аздоблена ў нацыянальныя колеры, па баках віселі партрэты знакамітых дзеячаў Бацькаўшчыны, а на сцэне – вялізны плакат са словамі Скарыны: «...Тако жъ и люди, игде зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають». Побач са словамі намалявана восеньская дрэва: лісця на ім не шмат... і лічбы: 1929–1989...

Хвілінай маўчання па рэпрэсаваных гісторыках і краязнаўцах пачался канферэнцыя. Іван Чыгрынаў, старшыня Праўлення БФК: «У краіне ўжо не ноч, але яшчэ і не раніца...» Генадзь Кахаnоўскі грунтоўна і эмацыйна распавёў гісторыю нашага краязнаўства. Гаворачы пра савецкія часы, сказаў: «Развіты сацыялізм у нас можна ўбачыць толькі ў музеях». Далей Генадзь Аляксандравіч прапанаваў накіраваць асноўныя высілкі на стварэнне Беларускага Краязнаўчага Таварыства (БКТ) і аднаўленне часопіса «Наш край», а скончыў выступ лозунгам: «Жыве краязнаўства – Жыве Беларусь!» Эдуард Міхайлавіч Загарульскі прапанаваў не дзяліць гістарычную навуку на акадэмічную і краязнаўчую. А пры Акадэміі навук БССР стварыць цэнтр па краязнаўстве.

Мікола Чарняўскі: «Археалагі і гісторыкі БССР загінулі ў 1937–1938 гадах, а не ў Вялікай Айчыннай...» Міхась Ткачоў: «Нямецкая «Рыфмаваная рыцарская хроніка...» пад 1270 годам згадвае, што для ўдзелу ў бітве... прыйшлі 100 воінаў-славян пад бел-чырвона-белым сцягам! У XIII стагоддзі наша геральдыка моцна стаяла на зямлі, і мы былі ў адным шэрагу з Еўропай. Актуальная задача зараз – напісанне гісторыі Беларусі праз напісанне лакальнай гісторыі гарадоў, мястэчак і вёсак». Генадзь Кісялёў: «Зараз КДБ высылае спісы рэпрэсаваных па патрабаванні – выкарыстоўвайце эфектыўна гэтую магчымасць у сваёй краязнаўчай працы...». Адам Мальдзіс: «Мы хутка дамо даведнік па архівах БССР і СССР – дзе, што знаходзіцца па гісторыі нашага краю... Трэба стварыць банк памяці для краязнаўцаў... Да «Спадчыны» трэба дадатак-бібліятэчку краязнаўца...».

Запомніліся выступы У. Арлова, В. Іпатавай, А. Цітова, В. Рабцэвіча, В. Чамярыцкага, Б. Сачанкі, Л. Казлова, У. Белакоза, К. Шыдлоўскага. Генадзь Кахаnоўскі знаходзіўся ў эпіцэнтры падзей, кожны перапынак вакол яго збіраліся людзі – пытанні, віншаванні, прапановы, просьбы... І кожнаму ён даваў хвілінку свайго часу ў гэтай віхуры... Мяне ўразілі ягоныя вочы – вочы стомленага, але вельмі шчаслівага чалавека. Актыўнасць залы таксама ўражвала – людзі адчулі моц і натхненне, прапановы не перапыняліся... і, калі на другі дзень Кахаnоўскі прапанаваў лічыць наш сход не канферэнцыяй, а III З'ездам Беларускага Краязнаўчага Таварыства, аднаўляючы такім чынам сучасны краязнаўчы рух з даваенным, перарваным у 1930-я гады, – мы стоячы віталі прынятае рашэнне!..

Нарэшце ў перапынку мы з Генадзем Аляксандравічам пазнаёміліся асабіста. Памятаю, ён сказаў: «Вось добра, што вы такі малады – шмат паспееце зрабіць!» І адразу запатрабаваў ад мяне статут краязнаўчага таварыства «Малое Палессе», які я, у лісце да яго, абяцаў дапрацаваць і прывезці на канферэнцыю. Пагартаўшы статут, Генадзь Кахаnоўскі параіў унесці невялічкія змены, прыняць яго на пасяджэнні таварыства і прывезці альбо даслаць поштай. «Мы выкарыстаем ваш статут, як прыклад для рэгіянальных суполак – гэта вельмі важна, што ініцыятыва ідзе знізу!» – сказаў ён. Потым падарыў мне невялічкую кніжачку «Гэй, смалі, страляй, маланка!» з аўтографам: «Дарагому Андрэю Аляхновічу з прыемнасцю. Г. Кахаnоўскі. 25–27.XII.89. Менск.», і пажадаўшы поспехаў адзін аднаму, мы цёпла развіталіся. Ускрылены, я прыехаў дамоў, і пачалася праца. Не забываў пісаць і свайму Настаўніку. Я, натуральна, «засыпаў» яго пытаннямі, а ён цярпліва, далікатна і хутка адказваў на мае лісты.

Напрыканцы лютага 1990 г. прыйшло запрашэнне да ўдзелу ў круглым стале, што арганізавалі рэдакцыя «Мінскай праўды» і абласное аддзяленне Фонду культуры, а ў ім прыпіска рукой Кахаnоўскага: «Не забудзь прывезці статут!» На круглы стол мы паехалі ўдвох з маім сябрам Міхалам Баравулям, дырэктарам Стараслабадской СШ Крупская раёна, апантаным краязнаўцам. Яго выступ вельмі спадабаўся Генадзю Аляксандравічу, і пасля ён жартам даў нам мянушку «Крупскі вулкан ідэй». На круглы стол былі запрошаны навукоўцы, краязнаўцы, пісьменнікі, было выказана шмат цікавых ідэй, прапаноў, як нам развіваць далей краязнаўства, музейную справу. Запомніліся словы Кахаnоўскага: «У музеі галоўная мэта – адлюстроўваць духоўнае жыццё, а не матэрыяльнае! А то ўсё лапці, куды ні глянь... Трэба, каб зайшоў у музей... і зашчымела сэрца!» Журналісты «Мінскай праўды» абяцалі надрукаваць усе цікавыя прамовы выступоўцаў у некалькіх нумарах сваёй газеты. На развітанне мы з Генадзем Аляксандравічам хвілін 20 размаўлялі пра нашыя справы, перадалі яму свой статут, і я зноў убачыў вочы Кахаnоўскага – невялічкія, занепакоеныя, патрабавальныя, добрыя вочы шчаслівага чалавека.

Матэрыял аб круглым стале пабачыў свет на старонках «Мінскай праўды» толькі ў маі 1990-га (круглы стол прайшоў 28 лютага) і выглядаў вельмі сціпла. Мы ж у Крупках пачалі актыўную працу – штотыдзень вялі краязнаўчыя гурткі ў сваіх школах, раз на месяц выдавалі краязнаўчую старонку «Малое Палессе» у раённай газеце, рыхтавалі да выдання кнігу «Памяць», шукалі ў архівах, збіралі ўспаміны, ладзілі фальклорна-этнаграфічныя экспедыцыі і рабілі шмат іншай, звычайнай краязнаўчай працы...

Памятаю, у 1991 годзе прыйшоў ліст ад Генадзя Аляксандравіча, а з ім разам невялічкая брашура: «Статут Беларускага Краязнаўчага Таварыства». А ў ім, як і абяцаў спадар Генадзь, дзеля ўзору быў надрукаваны наш Статут краязнаўчага таварыства «Малое Палессе»! У лісце ён віншаваў нас з рэгістрацыяй у Міністэрстве юстыцыі Беларускага Краязнаўчага Таварыства пад № 99 і падпісаўся: «Старшыня Рады БКТ Генадзь Кахаnоўскі».

***Я адчуваў сябе ў гэты момант самым шчаслівым чалавекам – мы аднавілі статус краязнаўства на дзяржаўным узроўні! Здавалася: мы ўсё зробім для таго, каб наша Бацькаўшчына заўсёды была магутнай і незалежнай. Такі быў узнёслы і радасны настрой...***

*Андрэй АЛЯХНОВІЧ*

*(Паводле часопіса «Куфэрак Віленшчыны». 2003, № 1)*

# ВЕРАБЕЙ

## Абразок

Хто не ведае дзіцячай дражнілкі:

*Андрэй-верабей*
*На кані катаўся?..*

Так што ў мяне з гэтай птушачкай яшчэ ад маленства свае рахункі. З аднаго боку – злосць на малога, кволага, слабога вераб'я, з якім цябе параўноўваюць, з іншага... Сядзіш, бывала, зімою хворы, з абвязаным горлам, у хаце. Так сумна! Тэлевізара няма, радыё сапсавалася, кніжку чытаць надакучыла... Прылепішся да шыбіны, прахукаеш дзірку ў заінелым шкле – увесь тэлевізар... І раптам бачыш: на дварэ скачуць мілыя шэрыя шарыкі, адзіныя жывыя істоты, якія нібы знарок, нібы ведаючы, што ты хворы, прыляцелі ў адведкі, каб падтрымаць. І ўжо не так сумна, весялей бяжыць час...

Але я не пра тое. Неяк дарosламу прыйшло мне ў галаву, што гэта ж птушкі, у тым ліку і вераб'і, могуць свабодна, без усялякіх пашпартаў, віз, мытняў, без ведання замежных моў пералятаць любыя межы, наведвацца ў любыя, якія толькі пажадаюць, краіны! Міжволі пазайздросціш, міжволі ўсклікнеш:

– Ну чаму людзі не лятаюць?!

У беларускага паэта Валодзі Марука ёсць дзіцячая кніжка, называецца «Як Чыж лятаў у Парыж». Яшчэ адзін наш пісьменнік, Валодзя Клімовіч, перабраўся ў Мексіку і апісвае, як ён лятае там на дэльтаплане: «І вось я, вясковы хлапчучок з-пад Ліды – раптам плaніру́ю-вішу над чужой зямлёй, над чужым кантынентам! Якая радасць, якое адчуванне волі, якое ні з чым не параўнанае шчасце!» Альбо – гэта, праўда, не з птушкамі звязана, але ўсё адно з палётам – верш Янкі Купалы:

*Мой мілы таварыш, мой лётчык!*
*Вазьмі ты з сабою мяне!*
*Я, ведай, вялікі ўжо хлопчык*
*І ўмею ўжо лётаць у сне...*

Колькі тут прагі хоць на міг, хоць у фантазіях адарвацца ад зямлі, атрымаць доўгачаканую волю, апынуцца там, дзе хочаш!

Вышэй я напісаў, што птушкам не абавязкова веданне замежных моў; гэта не зусім так. Нядаўна вучоныя-арнітолагі зрабілі сенсацыйнае адкрыццё. Аказваецца, напрыклад, французская варона не разумее беларускую! У іх іншыя карканні. Скажам, па-французску «кар!» будзе азначаць трывогу, а наша варона пераклaдзе: «Сюды! Тут корму многа!» Во як цікава.

Сядзім мы неяк з маёй сяброўкай-шведкаю ў цэнтры Мадрыда, у гэтак званым «іспанскім унутраным дворыку». П'ем каву. А вераб'ёў-вераб'ёў шнырыць пад столікамі!

– Ведаеш, – сказаў я, – гэта прыкмета вельмі чыстай экалогіі. У нас на Мазыршчыне пасля Чарнобыля вераб'і зніклі на некалькі гадоў. Усе да аднаго! А цяпер, дзякаваць Богу, патроху пачалі з'яўляцца.

Гэтыя словы так узрушылі маю Інгу-Ліну, што яна пабегла, купіла хат-дог і ўсяго раскрышыла яго вераб'ям. Я глядзеў на іх, слухаў іхняе ўдзячнае чык-чырыканне, успамінаў сябе малога – хворага, уяўляў Валодзю Клімовіча на дэльтаплане над Мексікай, думаў пра беларускага чыжа, які лятаў у Парыж... А з галавы ўсё не выходзіла:

*Андрэй-верабей*
*На кані катаўся...*

*Андрэй* ***ФЕДАРЭНКА***

**З народнай спадчыны**

# Легенда аб рэчцы Сары

*Непадалёк ад вёскі Увалокі Віцебскага раёна ў невялікім балотцы сярод гушчару лазовых хмызнякоў выбівае з-пад зямлі крынічка, халодная вада з яе цячэ пастаянна пад ухіл і ўтварае ручай. Ён збірае на сваім шляху іншыя ручаінкі і паступова становіцца рэчкай, хаця і невялікай. Бяжыць яна па палях і лугавінах, як праменьчыкам, праразае мясцовасць, і нездарма ў даўнасці людзі назвалі яе Лучыцай. Змейкай агінае яна падножжа славянскага гарадзішча і ўпадае ў Заходнюю Дзвіну.*

*Аднойчы ў абласным архіве, шукаючы звесткі пра свой край, на плане прыдзвінскіх зямель я ўбачыла Лучыцу, але названа яна была Сарай. Чаму яўрэйскае імя атрымала гэтая рэчка? Пры тым параўнальна нядаўна, перад самай рэвалюцыяй. Пачаліся пошукі, распытванні мясцовых жыхароў-старажылаў. Пакрыху вымалёўвалася цікавая гісторыя, якая ператварылася ў прыгожую легенду.*

*Недзе ў пачатку XIX стагоддзя ў вёсцы Ноўка, якая стаяла на беразе гэтай Лучыцы, пасяліліся тры браты-яўрэі. Займаліся яны гандлем і рамяством. Была ў аднаго з іх прыгожая дачка Сара. Яна вучылася ў Віцебску і часта наведвалася да бацькоў.*

*У суседняй вёсцы Запрудзе жыў разам з маці (бацька памёр) прыгожы, статны хлопец Васіль. Сям'я была беднай. І трэба так здарыцца, што аднойчы на вясковых вячорках убачыў Васіль прыгажуню Сару і закахаўся ў яе. Сара адказала хлопцу ўзаемнасцю. І пачалі маладыя людзі сустракацца. Для спаткання выбралі маляўнічае патаемнае месца на беразе рэчкі Лучыцы. Струменіла па дробных каменьчыках празрыстая вада, мілагучна ля ног закаханых шапталася асака, схілялі над імі галовы зялёныя вербы, ласкава глядзелі з неба зоркі, і ў гушчары хмызнякоў зачаравана спяваў ім сваю чараўнічую песню салавей. Сэрцы маладых людзей напаўняліся захапленнем прыгожага кахання.*

*Багатыя бацькі Сары не дазволілі выйсці замуж за беднага мужыка. І закаханыя працягвалі сустракацца патаемна на старым месцы і марыць аб тым, калі яны ўсё ж стануць мужам і жонкай.*

*Але хутка пачалася Першая сусветная вайна, потым рэвалюцыя, грамадзянская вайна. Хлопца забралі ў салдаты, і ваенная завіруха надоўга закінула Васіля далёка ад родных мясцін.*

*Шмат гадоў чакала дзяўчына свайго каханага, часта прыходзіла на месца іх былога спаткання, доўгім ланцужком цягнуліся думкі пра Васіля, душа напаўнялася трывогай і смуткам. Ад пастаяннай тугі Сара захварэла на сухоты. Вясной, калі пышна цвіла чаромха і па-ранейшаму спявалі салаўі, а ля ног плёскалася лагодная вада, дзяўчына доўга стаяла на беразе Лучыцы, у думках развіталася з Васілём і праз нядоўгі час памерла.*

*Васіль вярнуўся дадому. Калі ён пачуў пра трагічны лёс сваёй каханай, сэрца напоўнілася адчаем, а на душы стала пуста. Час ад часу ён наведваўся на той бераг рэчкі, дзе доўгія ночы праводзіў з дзяўчынай.*

*У хуткім часе Васіль таксама захварэў на нейкую цяжкую хваробу і памёр. Так трагічна закончылася жыццё маладых закаханых.*

*А людзі доўгі час месца сустрэчы Сары і Васіля называлі Сарыным берагам, а потым і рэчку сталі называць Сарай. Вельмі ўжо прыгожая і добрая была тая дзяўчына. Так рэчка Лучыца атрымала другое імя. І цяпер старыя вяскоўцы завуць яе або Лучыцай, або Сарай. А паколькі яна да цяперашняга часу стала вузкай і абмялела, моладзь проста называе яе ручаём.*

***Ад старажылаў запісала***
***М. ЮШКЕВІЧ,***
***Віцебскі раён***



*Фота Наталлі ПАБІРУШКА*

*Рака Дзісна*

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**БЫЧОК** – беларускі народны танец у некалькіх харэаграфічных варыянтах: найбольш старажытны падобны да карагодаў, пазнейшы – да кадрылі, да сольных імправізаваных танцаў тыпу «Казачка». Музычны памер 2/4. Самадзейныя і прафесійныя балетмайстры па-рознаму ў ім выкарыстоўвалі народную аснову.

**БЮСТ** (з франц.) – пагрудная выява-партрэт чалавека, што вядома з часоў Старажытных Егіпта і Грэцыі, а пасля Старажытнага Рыма. На Беларусі гэтыя скульптурныя помнікі вядомыя з XVII ст. (М.К. Радзівілу ў фарным касцёле ў Нясвіжы). У XIX – пачатку XX стст. скульптары Р. Слізень, В. Бубноўскі, В. Смакоўскі стварылі шэраг бюстаў дзеячаў культуры Беларусі і Літвы. У савецкі час беларускімі скульптарамі створана вельмі шмат бюстаў дзеячаў рэвалюцыйнага руху і савецкіх кіраўнікоў, герояў грамадзянскай і Другой сусветнай войнаў, перадавікоў вытворчасці, а таксама вядомых беларускіх дзеячаў культуры, мастацтва і навукі – Цёткі (А. Пашкевіч), Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Крапівы і інш.

**БЯГОМЛЬ** – г.п. у Докшыцкім раёне за 30 км ад Докшыц. На канец XX ст. у ім было звыш 4 000 насельнікаў. Дакументальна ўпамінаецца з 1582 г. З 1861-га мястэчка, цэнтр воласці, у канцы XIX ст. сяло, 43 двары, 470 жыхароў. З 1924-га цэнтр Бягомльскага раёна, з 1938-га – гарадскі пасёлак. З 2 ліпеня 1941-га па 1 ліпеня 1944-га акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія ў Бягомлі і раёне знішчылі звыш 3 300 чалавек. З 1960-га ў Докшыцкім раёне. Ёсць прадпрыемствы па вытворчасці будаўнічых матэрыялаў, бытавога абслугоўвання і інш. З помнікаў вытворчай архітэктуры – Бягомльскі прамысловы комплекс XIX ст. Працуе Бягомльскі музей народнай славы.

**БЯДУЛЯ** Змітрок (Плаўнік Самуіл Яфімавіч (1886, в. Пасадзец Лагойскага р-на – 1941) – беларускі пісьменнік. Першы твор празаічнага жанру надрукаваў у 1910 г., першую кнігу выдаў у 1913-м, у якіх адлюстраваў сацыяльны прыгнёт беларускага сялянства («Гора ўдавы Сымоніхі», «Пяць лыжак заціркі» і інш.). Пазней гэтыя і іншыя матывы развіваў у аповесцях «Салавей», «У дрымучых лясах», у рамане «Язэп Крушынскі». У шматлікіх вершах і паэмах адлюстраваў складаныя працэсы 1920-х гадоў. Даследаваў этнаграфію і фальклор Беларусі. Працаваў на розных вытворчых і рэдакцыйных пасадах, быў рэдактарам дзіцячага часопіса «Зоркі» і краязнаўчага выдання «Наш край». Памёр па дарозе ў эвакуацыю, пахаваны ў сённяшнім Казахстане.



***Бягомль, калішняя спіртасартыроўка***

**БЯЛЫНІЦКІ-БІРУЛЯ** Вітольд Каятанавіч (1872, сядзіба Крынкі Бялыніцкага р-на – 1957) – беларускі жывапісец-пейзажыст. Народны мастак Беларусі і Расіі, ганаровы акадэмік АН Беларусі. Вучыўся ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства (1889–1896), быў членам розных мастацкіх згуртаванняў. У любімым ім жанры пейзажу выявіў глыбокую назіральнасць, лірычнасць, тонкі разлік кампазіцыйнай пабудовы, яркае спалучэнне рознакаляровасці (карціны «Зноў расцвіла вясна», «Беларусь. Пачатак лета», «Лясная рэчка зімой», «Аголеныя бярозкі», «Пачатак восені»). Аўтар шматлікіх артыкулаў, кнігі ўспамінаў «З запісак мастака». У Бялынічах і ў Магілёве ёсць прысвечаныя яму музеі. У яго гонар на Магілёўшчыне ўжо шмат гадоў праводзяцца Міжнародныя пленэры. Пахаваны ў Маскве на Новадзявочых могілках.

**БЯЛЫНІЧЫ** – г.п. у Бялыніцкім раёне за 44 км ад Магілёва (паколькі ў іх дзейнічае адна з самых моцных на Беларусі раённых краязнаўчых суполак, то пра гісторыю Бялыніч і пра іх сённяшні дзень чакаем асобнага змястоўнага і цікавага даследавання – ліста ад сяброў гэтай суполкі, як у свой час чакалі і дачакаліся артыкула мясцовых даследчыкаў пра г. Барань Віцебскай вобласці).

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 05.01.2006.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02. 2004 г.)
Заказ 9.
Тыраж 1530.